*Працягваецца падпіска на другую палову 2015 года. Будзем і надалей сябраваць!*

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*
*Якуб КОЛАС*

# Народная Воля

№ 43 (3988)
5 чэрвеня 2015 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

ВІЗІТ

## У Мінску прэзідэнт Індыі стаў прафесарам



Невысокі немалады чалавек спакойна, нават асцярожна, сышоў па трапе самалёта і сумеўся, не ведаючы, што рабіць, бо дарогу яму перагарадзіла дзяўчына з хлебам-соллю. На дапамогу адразу ж прыйшоў малады ад'ютант, які ішоў побач і нёс партфель. Афіцэр нешта ціхенька сказаў начальніку на вуха, паказаў на хлеб, на соль, і госць паспяхова справіўся з традыцыйным беларускім рытуалам вітання дарагога госця. Так пачаўся першы візіт у Беларусь прэзідэнта Індыі Пранаба Мукерджы.

Для Мінска гэта быў і вельмі важны госць, і вельмі важны візіт. Чаму? Аляксандр Лукашэнка патлумачыў прычыну, вітаючы індыйскага калегу. *"Спробы ізаляваць Беларусь бесперспектыўныя, пакуль мы маем адносіны з такімі гіганцкімі дзяржавамі, як Індыя"*, – сказаў кіраўнік Беларусі. Яно і праўда, Індыя на сусветнай карце зусім не шараговая дзяржава.

Па-першае, гэта адзін з самых вялікіх сусветных рынкаў. Насельніцтва краіны складае 1,3 мільярда чалавек. Іншымі словамі, па колькасці насельніцтва гэта другая краіна ў свеце.

Па-другое, гэта адна з тых дзяржаў, якія імкліва развіваюцца і актыўна ўкладаюць грошы ў сваю эканоміку.

Па-трэцяе, гэта дзяржава, якая мае магутную армію (чацвёртую ў свеце) і з'яўляецца адным з самых перспектыўных партнёраў для прадпрыемстваў ваенна-прамысловага комплексу.

Нарэшце, у Мінск прыехаў адзін з самых аўтарытэтных індыйскіх дзяржаўных дзеячаў – можна сказаць, махараджа індыйскай палітыкі. Як вядома, не вельмі часта Беларусь сустракае такіх гасцей.

Зразумела, беларускі бок рабіў усё магчымае, каб Пранабу Мукерджы ў нас спадабалася. Тым больш што ў Мінск прэзідэнт Індыі завітаў адразу пасля Стакгольма, дзе яго візіт каранаваныя асобы віталі ў Каралеўскім палацы гала-вячэрай. Так што Аляксандру Лукашэнку трэба было расстарацца, каб яго афіцыйны абед у гонар госця не падаўся фаст-фудам у параўнанні з высокай кухняй.

Для добрых успамінаў пра Мінск быў прызапашаны і "раяль у кустах" – Пранабу Мукерджы, які мае ступень магістра Калькуцкага ўніверсітэта, але ніколі не займаўся навукай, прысвоілі званне ганаровага прафесара Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта.

Што тычыцца афіцыйнай часткі, то, зразумела, бакі дамаўляліся пра супрацоўніцтва. І як гэта заўсёды бывае, перспектывы малявалі самыя прывабныя: і наконт росту таваразвароту, і наконт стварэння сумесных прадпрыемстваў. Але хто сапраўды мае рэальны шанц "адхапіць вялікі куш" – дык гэта БелАЗ. Справа ў тым, што Індыя пачынае маштабныя праекты ў галіне горназдабываючай прамысловасці, і нам вельмі хацелася б, каб у індыйскіх кар'ерах панавалі менавіта жодзінскія аўтамабілі-волаты. Размова пра гэта на перамовах ішла. "Дарожную карту" супрацоўніцтва Беларусь і Індыя падпісалі. Але ж "дарожная карта" – гэта яшчэ не кантракты.

ТОЛЬКІ ФАКТЫ

• Пранаб Мукерджы – трынаццаты прэзідэнт Індыі. Да гэтага займаў пасады міністра абароны, міністра фінансаў, двойчы – міністра замежных спраў Індыі. Паходзіць з сям'і вядомага змагара за свабоду Індыі Камады Кінкара Мукерджы, які больш за дзесяць гадоў правёў у брытанскіх турмах.

• За час, пакуль у Беларусі кіруе Аляксандр Лукашэнка, у Індыі змяніліся ... пяць прэзідэнтаў.

• Насуперак шырока распаўсюджанаму меркаванню, Расія не з'яўляецца самым значным гандлёвым партнёрам Індыі. Аснову індыйскага экспарту складаюць пастаўкі ў ЗША, Еўрасаюз і Кітай.

• Зразумела, што ў Індыі Беларусь шукае новыя рынкі збыту для нашай прадукцыі. Дарэчы, шукае з 1992 года, калі паміж нашымі краінамі былі ўсталяваны дыпламатычныя адносіны. Сёння ў гэтую краіну пастаўляецца беларуская прадукцыя 72 найменняў. Аснову экспарту складаюць калійныя ўгнаенні, прадукцыя хімічнай прамысловасці і грузавікі.

• У мінулым годзе беларускі экспарт у Індыю склаў 215 мільёнаў долараў. Мала гэта ці шмат? Для прыкладу: кошт аднаго самазвала БелАЗ-75710 складае 8–9 мільёнаў долараў.

• Аляксандр Лукашэнка двойчы наведваў Індыю з афіцыйнымі візітамі. Першы візіт у 1997 годзе быў плённым і стаў пачаткам значнага росту таваразвароту паміж нашымі краінамі. А вось візіт у 2007 годзе доўгатэрміновых вынікаў не меў. Параўнаем: у 2008-м годзе Беларусь экспартавала ў Індыю прадукцыі на 376,7 мільёна долараў, у 2009-м – на 487,8 мільёна, у 2015 годзе – на 215 мільёнаў долараў.

**Ігар МАРОЗАЎ.**




ЧЫТАЙЦЕ!

## «Таямніца, якую сем гадоў захоўвала жонка»

Усё ж добра, калі за пяро бяруцца знакамітыя асобы, якім ёсць што сказаць людзям. Вось і чарговыя мемуары экс-старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, члена-карэспандэнта Акадэміі навук, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Станіслава Шушкевіча парадуюць чытачоў. А паколькі тыраж яго кнігі невялічкі, то "Народная Воля" вырашыла перыядычна друкаваць яе асобныя часткі.

Сёння вы, шаноўныя прыхільнікі нашай газеты, зможаце даведацца, якая небяспека пагражала С.С.Шушкевічу ў 1999 годзе. Чытайце на 6-й старонцы яго ўспаміны пад загалоўкам "Таямніца, якую сем гадоў захоўвала жонка".

СПЕЦЫЯЛЬНЫ РЭПАРТАЖ

## У Мінску ля футбольнага манежа пасяліліся каровы, коні і свінні

*Карэспандэнт "Народнай Волі" пазнаёміўся з лепшымі каровамі Беларусі, кітайскімі курамі з чорнымі косткамі і быком Везувіем, які за чатыры гады даў каля 38 тысяч доз спермы.*



На гэтым тыдні ў Мінску адкрылася Міжнародная спецыялізаваная выстава "Белагра-2015", якая будзе працаваць да 6 чэрвеня.

Трэба сказаць, што да юбілейнага, 25-га, форуму аграрыі падрыхтаваліся капітальна і паставілі своеасаблівы рэкорд – сёлета ўдзельнікамі выставы сталі 503 кампаніі з 23 краін свету. Вырашылі і мы наведаць гэтае мерапрыемства...

...Сталічны футбольны манеж на тыдзень змяніў спецыялізацыю. Унутры будынка – разнастайныя павільёны, прэзентацыі, дэгустацыі. Тут вам дадуць пакаштаваць каўбасы, сыру, малака... Выбар багаты. Вакол манежа – сельскагаспадарчая тэхніка, продажы-распродажы самай разнастайнай прадукцыі на любы густ.





Але наведвальнікаў, безумоўна, больш за ўсё вабяць жывыя экспанаты. У міні-басейнах беларускіх рыбгасаў плаваюць унушальных памераў самы, бялугі і нават экзатычныя рыбы-веслаtносы. Непадалёку ў вальерах – пародзістыя быкі, каровы, свінні, гусі, авечкі і неверагоднай прыгажосці пеўні і куры.

**Мікалай ДЗМІТРЫЕЎ** – пенсіянер, але займаецца развядзеннем свойскай птушкі ў Старадарожскім раёне. Распавядае, што трымае тыя пароды курэй, якія яму падабаюцца, – сусекс, барэвельдэр...

*"У іх вельмі смачнае мяса і вялікія яйкі,* – хваліць Мікалай сваіх гадаванцаў. – *Кураняты ў мяне каштуюць у залежнасці ад узросту: тыднёвыя – па 100 тысяч рублёў, падрошчаныя – па 150 тысяч".*

Юрый разводзіць курэй парод маран, пушкінская, арлоўская, ленінградская. Ёсць і кітайскія дэкаратыўныя, якія, праўда, не любяць холад. Гэтыя пушыстыя камякі ў Кітаі інакш называюць курамі з косткамі вароны. У іх насамрэч чорныя косткі і шэра-чорнае мяса.

– Вазьміце дзецям дэкаратыўнага трусіка, замест коціка будзе, – прапануе мне прадстаўнік аграсядзібы "Вішнёвы сад". – Не так і дорага – 200 тысяч. І дагледзець яго вельмі проста, клетку толькі трэба купіць. Сам ходзіць у прыбіральню, "Геркулес" любіць ці елку пагрызці, з дзецьмі добра гуляецца.

Рагулі чакаюць 6 чэрвеня, калі пройдзе конкурс на лепшую ў Беларусі племянную карову малочнай пароды.

– Тут усе добрыя каровы, – распавядае галоўны заатэхнік племзавода "Мухавец" Брэсцкага раёна **Святлана ГАЦКЕВІЧ. –** Гэта ляжыць Мая, там – Вікторыя. Тыя вось – Кропелька і Паўлінка. Кожная вобласць выставіла на конкурс па чатыры каровы, Інстытут жывёлагадоўлі будзе выбіраць лепшую. На што будуць глядзець у першую чаргу? На моц пастаноўкі капыт, на падвязку вымя... Ды на ўсё глядзяць.

Святлана Мікалаеўна скардзіцца на спякоту. *"Жывёлы пакутуюць*, – кажа яна. – *Сонца падымаецца, цень даводзіцца самім рабіць. Яны тут пастаянна ляжаць, тут жа доім, а вечарам выводзім гуляць па манежы, каб не залежваліся".*

**– Ад вашай гаспадаркі хто ўдзельнічае ў конкурсе?**

– Я ўдзельнічаю, – усміхаецца суразмоўца і ўдакладняе: – Буду выводзіць карову падчас конкурсу. Наша Майя, дарэчы, сярод усіх кароў тут самая старая – ёй ужо 9 гадоў.

**– І колькі такая дае малака?**

– На сённяшні момант у суткі Мая дае 49–52 літры. І гэта з улікам таго, што яе "паставілі" на сена, камбікорм і ваду. А ў хатніх умовах яшчэ і больш дала б. Гэта вельмі добры паказчык!

А вось 900-кілаграмовы бык Везувій з Магілёўскага племзавода, можна сказаць, бацька-герой. Як сведчыць шыльдачка, ён даў за сваё чатырохгадовае жыццё каля 38 тысяч доз спермы. Лічба ўражвае, здымаю перад быком капялюш!

*"Як казалі нашы дзяды: "Якое семя – такое і племя",* – дадае прадстаўнік племзавода. – *А племя ў нас добрае".*

...На выставе кожны хваліў сваіх гадаванцаў ці сваю прадукцыю, а ў наведвальнікаў было права выбару. І гэта не можа не радаваць.

**Алесь СІВЫ.**
**Фота аўтара.**

ДОСЛОВНО




## *Петр ПОРОШЕНКО,*
### *президент Украины:*

***«Сохраняется колоссальная угроза возобновления широкомасштабных боевых действий со стороны российских террористических группировок,*** **– заявил вчера украинский лидер, выступая с ежегодным посланием к Верховной Раде. –** ***Сейчас на территории Украины находятся 14 российских батальонно-тактических групп общей численностью свыше 9 тысяч военнослужащих. Концентрация российских военных вблизи государственной границы – в полтора раза больше, чем год назад. Так называемый Росвоенторг продолжает постоянно поставлять не только боеприпасы, продукты питания, вещевое имущество и топливо, но и новейшее оружие и самую современную военную технику».***

ПОЗИЦИЯ

## Соединенные Штаты возложили на Россию прямую ответственность за атаки сил сепаратистов на позиции украинской армии в районе Донецка

За сутки в зоне спецоперации в Донбассе погибли пятеро украинских военнослужащих, из них четверо – в районе Марьинки, сообщил на своей странице в «Фейсбуке» помощник министра обороны Украины Юрий Бирюков. По его данным, ранения получили еще 39 украинских военных.

Накануне в районе городов Марьинка и Красногоровка Донецкой области продолжались бои между украинскими войсками и вооруженными сторонниками самопровозглашенных Донецкой и Луганской «народных республик».

В Генштабе ВСУ ответственность за эскалацию конфликта возложили на боевиков. В ДНР в свою очередь заявили, что украинские военные с ночи среды начали обстрелы вдоль всей линии соприкосновения.

Соединенные Штаты возложили на Россию прямую ответственность за атаки сил сепаратистов на позиции украинской армии в районе Донецка. На пресс-брифинге пресс-секретарь госдепартамента Мэри Харф заявила о том, что *«объединенные силы России и сепаратистов провели скоординированные атаки».* Она подчеркнула, что будущее санкций зависит от поведения России. В случае выполнения Москвой своих обязательств в рамках Минских договоренностей некоторые значительные санкции могут быть отменены. В противном случае США *«будут продолжать повышать стоимость таких действий для России». «Мы ведем такие обсуждения внутри администрации и с нашими партнерами»,* – сказала Харф.

ВЧЕРА

Верховная Рада Украины приняла закон, разрешающий привлекать иностранный контингент, если он выполняет операции по поддержанию мира и безопасности. За соответствующее решение проголосовало 240 депутатов при 226 минимально необходимых.

ЗНАКОМЬТЕСЬ!

## Первый «зеленый» президент в Европе



«Надо выпить», – первая фраза новоизбранного президента Латвии, за которой последовало распитие минеральной воды на трибуне Сейма.

В социальных сетях она стала чуть ли не популярнее новости об избрании **Раймонда Вейониса** на должность главы государства, а к вечеру в интернете уже можно было приобрести одежду с вариациями первой фразы нового лидера страны.

Президентом Латвии стал экс-министр обороны Раймонд Вейонис, первый латвиец с русскими корнями, получивший столь высокую должность в госаппарате. Эксперты обещают, что новый глава государства не станет раздражающим фактором для восточного соседа, – правда, ввиду своей политической ориентации, а не этнической принадлежности.

«Первый «зеленый» президент в Европе» – так его уже назвали однопартийцы. Раймонд Вейонис был кандидатом от «Союза «зеленых» и крестьян», и под одно из этих определений он действительно подходит. Практически вся карьера избранного президента связана с вопросами окружающей среды.

После окончания Латвийского университета он работал по специальности учителем биологии. Затем перешел на административную должность и стал главой Управления окружающей среды в Большой Риге. Вейонис занимал пост министра охраны среды и регионального развития в нескольких правительствах. Но полтора года назад он неожиданно стал министром обороны. На этом посту он не принял каких-то заметных решений.

В отношении России Вейонис повторял общую линию ЕС и стран Балтии. В частности, он не раз заявлял, что его беспокоит передвижение российских военных у границы.

Новый президент Латвии родился в 1966 году в Псковской области, где служил его отец. Мама нового президента – русская, чего он сам никогда не скрывал, но и не афишировал. По словам политолога Иветы Кажоки, это не окажет никакого влияния на политику, однако поможет новому президенту стать фигурой, которая не будет раздражать многообразное латвийское общество, а, наоборот, поспособствует процессам интеграции.

Что касается международных отношений, то тут для нового президента главный приоритет – безопасность, границы и Вооруженные силы, а от России, по его словам, Латвия хочет конструктивного диалога. Правда, для этого Россия сама должна постараться.

*«Мы заинтересованы в конструктивном сотрудничестве с Россией. У любого сотрудничества есть две стороны. Если одна сторона нарушает международные правовые нормы, поддерживает или участвует в военных действиях на территории Украины, то конструктивный диалог вести нельзя. Однако если полностью соблюдаются Минские соглашения, если прекращается стрельба, если налаживаются отношения между Россией и Украиной, то Латвия, как и другие страны, готова к конструктивному диалогу. И я такой диалог поддержу»,* – заявил Раймонд Вейонис.

Профессор Карлис Даукштс считает, что мягкая риторика Раймонда Вейониса сыграет на сближение Востока и Запада, отмечается на сайте Би-Би-Си.

**Сергей ИВАНОВ.**

ФУТБОЛ

## Беларусь–Расія: хто каго?

*Напярэдадні матча з расіянамі галоўны трэнер зборнай Беларусі па футболе Аляксандр Хацкевіч распавёў пра яднанне ўкраінскага народа.*

7 чэрвеня беларуская каманда правядзе ў Хімках таварыскую гульню з камандай Расіі, а 14 чэрвеня ў кваліфікацыі Еўра-2016 згуляе ў Барысаве з іспанцамі.

Учора настаўнік зборнай Беларусі **Аляксандр ХАЦКЕВІЧ** падчас сустрэчы з журналістамі распавядаў аб падрыхтоўцы каманды да гэтых гульняў. Вось некаторыя вытрымкі з прэс-канферэнцыі.

### Пра матч з расіянамі

*– Не думаю, што расіяне пойдуць на нейкія эксперыменты, таму з намі будуць гуляць баявым складам. І мы таксама эксперыментаваць перад матчам з іспанцамі не будзем.*

### Пра беларускі чэмпіянат

*– Чэмпіянат Беларусі – турнір вельмі нізкага ўзроўню. Як па якасці футбола, так і па майстэрстве выканання. Тыя матчы, што я бачыў, дазваляюць зрабіць выснову: наша першынство сярэдняе. Нават не сярэдняе, а горш. На жаль.*

### Пра ўкраінскіх балельшчыкаў

*– Ва Украіне зараз адбываюцца сур'ёзныя падзеі. Краіна аб'ядноўваецца, народ дэманструе яднанне. На матчах зборнай заўсёды назіраюцца поўныя стадыёны. Пры гэтым незалежна ад вынікаў каманды. А ў нас як было? На паядынак супраць Украіны народ прыйшоў, а на гульню са Славакіяй – не. Мы ў гэтым плане ўкраінскім балельшчыкам саступаем.*

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

АКЦЫЯ

## Гарэлку ноччу не купіш

*З 15 чэрвеня алкаголь у мінскіх крамах будзе прадавацца з 9 да 22 гадзін.*

*«Паводле інфармацыі ГУУС Мінгарвыканкама, найбольш негатыўны ўплыў на крымінагенную сітуацыю ў Мінску аказвае рэалізацыя напояў з утрыманнем этылавага спірту ў гандлёвай сетцы горада ў начны час сутак. З улікам выкладзенага ўсімі адміністрацыямі раёнаў Мінска прыняты рашэнні, згодна з якімі з 15 чэрвеня 2015 г. на тэрыторыі Мінска продаж алкагольных і слабаалкагольных напояў, піва будзе ажыццяўляцца выключна з 09.00 да 22.00»,* – сказана ў паведамленні, размешчаным на афіцыйным сайце Мінгарвыканкама.

Абмежаванне не будзе тычыцца рэстаранаў і іншых прадпрыемстваў сферы грамадскага харчавання.

Як вядома, апошнім часам прадстаўнікі МУС заяўлялі, што ў хуткім часе непазбежна будзе прыняты афіцыйны закон, які забароніць прадаваць алкаголь ва ўсіх крамах краіны з 22.00 да 09.00. Акрамя таго, рыхтуецца і законапраект, паводле якога спіртное забароняць прадаваць на ўсіх аўтазапраўках.

